5 **125** гадоў з дня нараджэння **ПЯТРА ФЁДАРАВІЧА ПАПКОВІЧА** (1887, Брэст – 1946), расійскага вучонага-караблебудаўніка, інжынера-контр-адмірала, члена-карэспандэнта АН СССР, заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі Расіі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР (1946)

5 **90** гадоў з дня нараджэння **ГАЛІНЫ АЛЯКСАНДРАЎНЫ АРЖАНАВАЙ** (1922 – 1943), удзельніцы Брэсцкага антыфашысцкага падполля ў гады Вялікай Айчыннай вайны

5 **40** гадоў з дня заснавання Купалаўскага мемарыяльнага запаведніка **“ВЯЗЫНКА”** (Маладзечанскі р-н; 1972)

7 **60** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА СЦЯПАНАВІЧА ГЛУШАКОВА** (1952, Давыд-Гарадок), празаіка, публіцыста, дзяржаўнага дзеяча, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя К. Каліноўскага (1998)

8 **ВЯЛІКДЗЕНЬ** (па календары каталіцкай канфесіі)

9 **80** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА АНДРЭЕВІЧА БОЙКІ** (1932, Мінск – 1996), мастацтвазнаўца, літаратурнага крытыка, паэта, публіцыста, мастака

9 **70** гадоў з дня нараджэння **ТАМАРЫ ІВАНАЎНЫ ПАЎЛЮЧУК** (1942, Тураў – 2006), жывапісца

15 **ВЯЛІКДЗЕНЬ** (па календары праваслаўнай канфесіі)

16 **180** гадоў з дня нараджэння **АЛЬФРЭДА ІЗІДАРА РОМЕРА** (1832, Вільня – 1897), жывапісца, графіка, медальера, мастацтвазнаўца, этнографа

18 **125** гадоў з дня нараджэння **АНАТОЛЯ ДЗЯРКАЧА** (АНАТОЛЯ РЫГОРАВІЧА ЗІМІЁНКІ; 1887, Карэліцкі р-н – 1937), паэта, сатырыка, гумарыста, перакладчыка

19 **100** гадоў з дня нараджэння **ЛЕАНІДА ЯНУАРАВІЧА ПРОКШЫ** (1912, Полацк – 1994), пісьменніка

24 **РАДАЎНІЦА** (па календары праваслаўнай канфесіі)

24 **120** гадоў з дня нараджэння **ІОСІФА БЕНЦЫЯНАВІЧА СІМАНОЎСКАГА** (1892, Бабруйск – 1967), бібліятэказнаўца, бібліёграфа, перакладчыка, першага дырэктара НББ, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

24 **105** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСЕЯ ДАНІЛАВІЧА ДЗМІТРУКА** (1907, Жабінкаўскі р-н – 1942), удзельніка рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі і партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны

25 **75** гадоў з часу адкрыцця **БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ ФІЛАРМОНІІ** (Мінск; 1937)

26 **ДЗЕНЬ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ТРАГЕДЫІ** (1986)

26 **170** гадоў з часу пабудовы **БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ** (1842)

## ***МАЙ***

**20** гадоў з часу стварэння **“БЕЛАРУСКАЙ КАПЭЛЫ”,** творчага калектыву ў складзе Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і

балета Рэспублікі Беларусь (Мінск; 1992)

1 **СВЯТА ПРАЦЫ**

1 **80** гадоў з дня нараджэння **ПЯТРА АЛЯКСЕЕВІЧА КАРНАЧА** (1932, Чэрвеньскі р-н – 1996), мастацтвазнаўца, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1996)

1 **80** гадоў з дня нараджэння **ГЕНАДЗЯ ЯКАЎЛЕВІЧА КЛЯЎКО** (1932, Пухавіцкі р-н – 1979), паэта, перакладчыка

3 **135** гадоў з дня нараджэння **АНТОНА АНТОНАВІЧА ГРЫНЕВІЧА** (1877, Полацкі р-н – 1937), збіральніка і папулярызатара беларускага музычнага фальклору, педагога, выдаўца, кампазітара

5 **ДЗЕНЬ ДРУКУ**

6 **210** гадоў з дня нараджэння **СТАНІСЛАВА БАТЫСА ГОРСКАГА** (1802, Камянецкі р-н – 1864), прыродазнаўца, медыка, педагога, аднаго з першых даследчыкаў флоры Белавежскай пушчы

7 **ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ РАДЫЁ, ТЭЛЕБАЧАННЯ І СУВЯЗІ**

9 **ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ**

9 **120** гадоў з дня нараджэння **МІХАСЯ** (МІХАІЛА ВІНЦЭНТАВІЧА) **МЯЛЕШКІ** (1892, Мядзельскі р-н – 1941), гісторыка, архівіста, этнографа, публіцыста, пісьменніка, краязнаўца, аднаго з арганізатараў архіўнай справы ў Беларусі, члена Інбелкульта

9 **75** гадоў з дня нараджэння **ВАЛЯНЦІНА ЦІМАФЕЕВІЧА МЫСЛІЎЦА** (1937, Пухавіцкі р-н – 1993), пісьменніка, нарысіста

10 **75** гадоў з дня нараджэння **СЫМОНА ЦІХАНАВІЧА БЛАТУНА** (1937, Брагінскі р-н – 1970), паэта, перакладчыка

10 **70** гадоў з дня нараджэння **СЯРГЕЯ СЦЯПАНАВІЧА ПАНІЗНІКА** (1942, Міёрскі р-н), паэта, перакладчыка

11 **120** гадоў з дня нараджэння **АЛЬБІНА МІХАЛА ДЗЯКОНСКАГА** (1892, Кобрынскі ўезд – 1940), паэта

11 **115** гадоў з дня нараджэння **АНАТОЛЯ МІКАЛАЕВІЧА ТЫЧЫНЫ** (1897, Літва – 1986), беларускага графіка, аднаго з заснавальнікаў беларускай кніжнай графікі

11 **65** гадоў з дня нараджэння **РАІСЫ АНДРЭЕЎНЫ БАРАВІКОВАЙ** (1947, Бярозаўскі р-н), пісьменніцы, перакладчыка, лаўрэата Літаратурнай прэміі Беларусі імя А. Куляшова (1987), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1994), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (1998)

12 **70** гадоў з дня нараджэння **АНАТОЛЯ МІКАЛАЕВІЧА БАРОЎСКАГА** (1942, Мазырскі р-н), пісьменніка

13 **ДЗЕНЬ ДЗЯРЖАЎНАГА ГЕРБА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І ДЗЯРЖАЎНАГА СЦЯГА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** (другая нядзеля мая)

15 **ДЗЕНЬ СЯМ’І**

15 **130** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІСЛАВА ГАЛУБКА** (УЛАДЗІСЛАВА ІОСІФАВІЧА ГОЛУБА; 1882, Баранавіцкі р-н – 1937), драматурга, рэжысёра, акцёра, тэатральнага дзеяча, першага народнага артыста Беларусі

**15** **100** гадоў з дня нараджэння **АНАТОЛЯ ІВЕРСА** (ІВАНА ДАРАФЕЕВІЧА МІСКО; 1912, Слонімскі р-н – 1999), паэта, дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі

**15** **90** гадоў з дня нараджэння **ПЯТРА** (ПЯТРА САВЕЛЬЕВІЧА) **ВАСІЛЕЎСКАГА** (1922, Клімавіцкі р-н – 2002), пісьменніка, драматурга, кінарэжысёра, сцэнарыста

**16** **250** гадоў з дня нараджэння **ЮЗАФА КОПАЦЯ** (1762, Пінскі павет – 1827), рэвалюцыянера, падарожніка, мемуарыста, удзельніка паўстання 1794 г.

**16** **65** гадоў з часу правядзення ў г. Брэсце **ПЕРШАЙ НАРАДЫ МАЛАДЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ** заходніх абласцей рэспублікі, скліканай праўленнем Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі і ЦК ЛКСМБ (1947)

**16** **60** гадоў з дня нараджэння **ВАСІЛЯ ПЯТРОВІЧА ЖУШМЫ** (1952, Іванаўскі р-н), празаіка, журналіста, лаўрэата многіх рэспубліканскіх і міжнародных фотаконкурсаў

**19** **90** гадоў з пачатку існавання **БЕЛАРУСКАЙ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ПІЯНЕРСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ** як Усесаюзнай піянерскай арганізацыі імя У.І. Леніна, грамадскага аб’яднання (1922)

**20** **ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ ФІЗКУЛЬТУРЫ І СПОРТУ (**трэцяя нядзеля мая)

**20** **110** гадоў з дня нараджэння **ЯЗЭПА ПУШЧЫ** (ІОСІФА ПАЎЛАВІЧА ПЛАШЧЫНСКАГА; 1902, Мінскі р-н – 1964), паэта, аднаго з заснавальнікаў літаратурных аб’яднанняў “Маладняк” і “Узвышша”

**22** **110** гадоў з дня нараджэння **МІКАЛАЯ МІХАЙЛАВІЧА ЯНЧУРА** (1902, Пружанскі р-н – 1980), вучонага ў галіне хірургіі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

**22** **105** гадоў з дня нараджэння **АЛЕНЫ ВАСІЛЬЕЎНЫ АЛАДАВАЙ** (1907, Пружаны – 1986), мастацтвазнаўца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, заслужанага дзеяча культуры Польшчы

**22** **75** гадоў з дня нараджэння **ГЕНАДЗЯ ПЯТРОВІЧА ЧЫСЦЯКОВА** (1937), архітэктара, аўтара шматлікіх пабудоў і праектаў (Мінск і Брэсцкая вобл.)

**22** **70** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА ВАСІЛЬЕВІЧА УРОДНІЧА** (1942, Столінскі р-н), жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2004)

**23** **170** гадоў з дня нараджэння **МАРЫІ КАНАПНІЦКАЙ** (1842, Сувалкі, Польшча – 1910), польскай пісьменніцы, літаратурнага крытыка і публіцыста

**24** **85** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА ЛЯВОНЦЬЕВІЧА БЯДУЛІ** (1927, Камянецкі р-н), гаспадарчага і дзяржаўнага дзеяча Беларусі, двойчы Героя Сацыялістычнай Працы (1971, 1987), заслужанага работніка культуры Беларусі

**24** **35** гадоў з дня нараджэння **АЛЕСІ МІКАЛАЕЎНЫ ГУРШЧАНКОВАЙ** (1977, Мазыр), скульптара, за стварэнне помніка св. Афанасію Брэсцкаму ўзнагароджана ордэнам Андрэя Рублёва (2005)

25 **95** гадоў з дня нараджэння **ЯНКІ** (ІВАНА ДАНІЛАВІЧА) **НЕПАЧАЛОВІЧА** (1917, Старадарожскі р-н – 1969), паэта

25 **75** гадоў з дня нараджэння **МІКОЛЫ** (МІКАЛАЯ СЫМОНАВІЧА) **КУПРЭЕВА** (1937, Рагачоўскі р-н – 2004), пісьменніка

26 **70** гадоў з дня нараджэння **ЯНКІ** (ІВАНА ІВАНАВІЧА) **ГАЛУБОВІЧА** (1942, Маладзечанскі р-н), пісьменніка

27 **80** гадоў з часу ўтварэння **САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ** (1932)

27 **75** гадоў з дня нараджэння **ВАСІЛЯ ЕМЯЛЬЯНАВІЧА ЛЯВОНЧЫКАВА** (1937, Слаўгарадскі р-н), бібліяграфазнаўца, педагога, акадэміка Міжнароднай акадэміі інфарматызацыі

27 **70** гадоў з дня нараджэння **МІКАЛАЯ ІОСІФАВІЧА ЮРЧУКА** (1942, Столінскі р-н), вучонага-матэматыка, акадэміка Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1996)

28 **ДЗЕНЬ ПАГРАНІЧНІКА**

28 **85** гадоў з часу заснавання **НАЦЫЯНАЛЬНАГА АРХІВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** (Мінск; 1927)

29 **75** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА ПАЎЛАВІЧА РАМЕЙКІ** (1937, Ляхавіцкі р-н), майстра манументальнага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, металапластыкі і медальернага мастацтва, часопіснай і кніжнай ілюстрацыі

30 **70** гадоў з часу арганізацыі **ЗАХОДНЯГА ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАГА РУХУ** ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1942)

## *ЧЭРВЕНЬ*

**25** гадоў з часу стварэння **БЕЛАРУСКАГА САЮЗА МУЗЫЧНЫХ ДЗЕЯЧАЎ** (1987)

1 **65** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА СЯРГЕЕВІЧА КОШАЛЕВА** (1947, Пружанскі р-н), вучонага-гісторыка, усходазнаўца, акадэміка Беларускай акадэміі адукацыі

1 **20** гадоў з часу заснавання **МІНІСТЭРСТВА АБАРОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** (1992)

3 **ДЗЕНЬ МЕЛІЯРАТАРА** (першая нядзеля чэрвеня)

5 **ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ СВЯТОЙ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ**

5 **75** гадоў з дня нараджэння **БАРЫСА ПАЎЛАВІЧА БЕЛЯЖЭНКІ** (1937, Бешанковіцкі р-н), пісьменніка, журналіста, лаўрэата прэміі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі (1989), Літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча (2008), лаўрэата Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу “Лепшы твор” (2008, 2009)

5 **75** гадоў з дня нараджэння **ВАЛЯНЦІНА ПАЎЛАВІЧА ЗАНКОВІЧА** (1937, Мінск), архітэктара, скульптара, сярод работ якога мемарыяльныя комплексы “Хатынь” і “Брэсцкая крэпасць”, лаўрэата Ленінскай прэміі

(1970), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967)

5 **70** гадоў з дня нараджэння **ВЯЧАСЛАВА ПЯТРОВІЧА РАГОЙШЫ** (1942, Валожынскі р-н), крытыка, літаратуразнаўца, перакладчыка, аўтара вучэбных дапаможнікаў для вышэйшых навучальных устаноў, акадэміка Міжнароднай АН Еўразіі, выдатніка адукацыі Беларусі, лаўрэата Міжнароднай літаратурнай прэміі імя І. Франко (2000)

6 **80** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА МІКАЛАЕВІЧА СЕЎРУКА** (1932, Мінск – 2005), грамадскага дзеяча, літаратуразнаўца, публіцыста, перакладчыка, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1981)

6 **75** гадоў з дня нараджэння **ІВАНА ІОСІФАВІЧА НЕКРАШЭВІЧА** (1937, Столінскі р-н – 2009), заслужанага архітэктара Беларусі, лаўрэата прэміі Савета Міністраў СССР (1971, 1987)

7 **80** гадоў з дня нараджэння **МІХАІЛА НАВУМАВІЧА** (МАЙСЕЯ БЕНЬЯМІНАВІЧА) **ГЕРЧЫКА** (1932, Бабруйск – 2008), пісьменніка, публіцыста

10 **450** гадоў з часу выдання **“КАТЭХІЗІСА”,** працы Сымона Буднага, першай кнігі на беларускай мове, выдадзенай на тэрыторыі Беларусі (Нясвіж; 1562)

10 **200** гадоў з часу адкрыцця **ПОЛАЦКАЙ ЕЗУІЦКАЙ АКАДЭМІІ**, першай вышэйшай навучальнай установы на тэрыторыі сучаснай Беларусі (1812 – 1820)

12 **70** гадоў з дня нараджэння **ЯРАСЛАВА МАРКЕВІЧА** (1942, Камянецкі р-н), паэта, празаіка, жывапісца

13 **310** гадоў з дня нараджэння **МІХАЛА КАЗІМІРА РАДЗІВІЛА** (мянушка Рыбанька; 1702 – 1762), дзяржаўнага і ваеннага дзеяча ВКЛ, мецэната

14 **145** гадоў з дня нараджэння **МІТРАФАНА ВІКТАРАВІЧА ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКАГА** (1867, Рэчыца – 1934), гісторыка, эканаміста, этнографа, заснавальніка беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі

14 **75** гадоў з дня нараджэння **ВАСІЛЯ АНДРЭЕВІЧА СЫЧЫКА** (1937, Бярозаўскі р-н), вучонага ў галіне радыётэхнікі і электронікі, акадэміка і заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій

16 **115** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСАНДРА АНУФРЫЕВІЧА ШЛЮБСКАГА** (1897, Расонскі р-н – 1941), літаратуразнаўца, этнографа, фалькларыста, бібліёграфа

16 **60** гадоў з дня нараджэння **ЮРЫЯ ІВАНАВІЧА АВЯР’ЯНАВА** (1952, Лунінецкі р-н – 1996), акцёра

17 **ДЗЕНЬ МЕДЫЦЫНСКІХ РАБОТНІКАЎ** (трэцяя нядзеля чэрвеня)

19 **100** гадоў з дня нараджэння **ПЯТРА** (ПЯТРА ІВАНАВІЧА) **БІТЭЛЯ** (1912, Воранаўскі р-н – 1991), паэта, перакладчыка, мемуарыста, краязнаўца

20 **375** гадоў з часу атрымання Ружанамі **МАГДЭБУРГСКАГА ПРАВА І ГЕРБА СВЯТОГА КАЗІМІРА** (1637)

20 **70** гадоў з дня нараджэння **СЯРГЕЯ ФЁДАРАВІЧА ДАВІДОВІЧА**

(1942, Лагойскі р-н), жывапісца, імя якога ўключана ў сусветную энцыклапедыю “Художники всех времён и народов”, пісьменніка

22 **ДЗЕНЬ УСЕНАРОДНАЙ ПАМЯЦІ АХВЯР ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ**

22 **55** гадоў з часу адкрыцця **БРЭСЦКАГА АБЛАСНОГА КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ** (1957)

24 **ДЗЕНЬ МОЛАДЗІ** (апошняя нядзеля чэрвеня)

24 **235** гадоў з дня нараджэння **ЯНА ХОДЗЬКІ** (БАРЭЙКІ; 1777, г.п. Крывічы – 1851), пісьменніка, драматурга, грамадскага дзеяча

24 **200** гадоў з пачатку **АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ 1812 г**., абарончай вайны Расіі супраць французскай агрэсіі, падчас якой арэнай ваенных дзеянняў стала і Беларусь

24 **60** гадоў з дня нараджэння **ЛЮДМІЛЫ ГЕНАДЗЬЕЎНЫ КІРУХІНАЙ** (1952, Мар’іна Горка), бібліятэказнаўца, заслужанага работніка культуры Беларусі, галоўнага рэдактара часопіса “Бібліятэчны свет” і навукова-практычнага зборніка “Бібліятэчны веснік”

26 **ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ ПРАКУРАТУРЫ**

26 **90** гадоў з часу стварэння **ПРАКУРАТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**, адзінай цэнтралізаванай сістэмы дзяржаўных органаў, якія ажыццяўляюць пракурорскі нагляд за дакладным і аднастайным выкананнем законаў, дэкрэтаў, указаў і іншых нарматыўных актаў (1922)

26 **80** гадоў з дня нараджэння **ДАВІДА РЫГОРАВІЧА СІМАНОВІЧА** (1932, Нароўля), пісьменніка, сцэнарыста, перакладчыка

27 **90** гадоў з дня нараджэння **ПАНЦЯЛЕЯ БАРЫСАВІЧА ЛАКЦІЁНАВА** (1922 – 1944), удзельніка вызвалення Брэсцкага раёна ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза (1945)

28 **ДЗЕНЬ ВЫНАХОДНІКА І РАЦЫЯНАЛІЗАТАРА**

28 **90** гадоў з дня нараджэння **ІВАНА ФЁДАРАВІЧА КУДРАЎЦАВА** (1922, Салігорскі р-н – 2004), пісьменніка, крытыка, літаратуразнаўца

28 **50** гадоў з дня нараджэння **ВІКТАРА ІВАНАВІЧА ІЎЧАНКАВА** (1962, Кобрынскі р-н), мовазнаўца, заснавальніка беларускай навуковай школы дыскурснага аналізу сродкаў масавай інфармацыі, выдатніка адукацыі Беларусі, лаўрэата прэміі Беларускага саюза журналістаў “Залатое пяро” (2010)

## *ЛІПЕНЬ*

2 **105** гадоў з дня нараджэння **ВАСІЛІСЫ СЯМЁНАЎНЫ СЕЛІВОНІК** (1907, Кобрынскі р-н – 1990), удзельніцы рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, удзельніцы партызанскай барацьбы ў гады Вялікай Айчыннай вайны, ганаровага грамадзяніна г. Брэста

3 **ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** (ДЗЕНЬ РЭСПУБЛІКІ)

4 **60** гадоў з дня нараджэння **ГАЛІНЫ ЛЬВОЎНЫ НЯФАГІНАЙ** (1952, Пінск), літаратуразнаўца, даследчыцы рускай літаратуры, аўтара

вучэбных дапаможнікаў для вышэйшай школы, даведнікаў для школьнікаў і абітурыентаў

**7** **130** гадоў з дня нараджэння **ЯНКІ КУПАЛЫ** (ІВАНА ДАМІНІКАВІЧА ЛУЦЭВІЧА; 1882, Маладзечанскі р-н – 1942), народнага паэта Беларусі, драматурга, публіцыста, перакладчыка, аднаго з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы, грамадскага дзеяча, акадэміка НАН Беларусі і АН Украіны, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР (1941)

**7** **125** гадоў з дня нараджэння **МАРКА ЗАХАРАВІЧА ШАГАЛА** (1887, Віцебск – 1985), беларускага і французскага мастака, аднаго з лідэраў мастацкага авангарда ХХ ст.

**8** **ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ ПАДАТКОВЫХ ОРГАНАЎ** (другая нядзеля ліпеня)

**10** **75** гадоў з дня нараджэння **МІКОЛЫ** (МІКАЛАЯ ФАМІЧА) **КАПЫЛОВІЧА** (1937, Лельчыцкі р-н – 2000), пісьменніка

**10** **70** гадоў з дня нараджэння **ПЯТРА ІЛЬІЧА КЛІМУКА** (1942, Брэсцкі р-н), лётчыка-касманаўта СССР, першага беларускага касманаўта, генерала-палкоўніка авіяцыі, двойчы Героя Савецкага Саюза (1973, 1975), вучонага ў галіне тэхнічных навук, члена-карэспандэнта Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, акадэміка Расійскай акадэміі касманаўтыкі імя К.Э. Цыялкоўскага, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР (1978, 1981), лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Расіі (2001), кавалера многіх ордэнаў Расіі і Беларусі

**15** **ДЗЕНЬ МЕТАЛУРГА**

**17** **70** гадоў з дня нараджэння **ЛЮБОВІ МІКАЛАЕЎНЫ ТУРБІНОЙ** (1942), паэтэсы, перакладчыцы, літаратуразнаўца

**18** **20** гадоў з пачатку правядзення **"СЛАВЯНСКАГА БАЗАРУ Ў ВІЦЕБСКУ"**, Міжнароднага фестывалю мастацтваў (1992)

**20** **110** гадоў з дня нараджэння **ГЕОРГІЯ МІКІТАВІЧА ХАЛАСЦЯКОВА** (1902, Баранавічы – 1983), ваеннага дзеяча, віцэ-адмірала, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза (1965), іменем якога названа вуліца ў г. Баранавічы, дзе адкрыты дом-музей Г. М. Халасцякова

**20** **70** гадоў з дня нараджэння **СЯРГЕЯ МІКАЛАЕВІЧА ЧАРАНКЕВІЧА** (1942, Баранавіцкі р-н), вучонага ў галіне біяфізікі клеткі, клетачнай інжынерыі, клетачнай інфармацыі, акадэміка НАН Беларусі, выдатніка адукацыі Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2002)

**22** **80** гадоў з дня нараджэння **ЛЕАНІДА ФЁДАРАВІЧА ЯЎМЕНАВА** (1932, Чэрыкаў), вучонага-філосафа, паэта, члена-карэспандэнта НАН Беларусі

**22** **50** гадоў з дня нараджэння **АНАТОЛЯ ІОСІФАВІЧА ДЭБІША** (1962, Свіслацкі р-н), паэта

**22** **50** гадоў з дня нараджэння **ВАСІЛЯ ІОСІФАВІЧА ДЭБІША** (1962, Свіслацкі р-н), паэта

**24** **100** гадоў з дня нараджэння **БАРЫСА АДАМАВІЧА БУЛАТА** (1912 – 1984), аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Баранавіцкай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага

Саюза (1944)

**25** **ДЗЕНЬ ПАЖАРНАЙ СЛУЖБЫ**

**28** **ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ г. БРЭСТА АД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ** (1944)

**28** **200** гадоў з дня нараджэння **ЮЗАФА ІГНАЦЫ КРАШЭЎСКАГА** (1812, Варшава – 1887), польскага пісьменніка, гісторыка, публіцыста, бібліяфіла, грамадскага дзеяча, шмат твораў якога прысвечаны Беларусі, акадэміка Акадэміі ведаў у Кракаве

**28** **50** гадоў з дня нараджэння **АНАТОЛЯ СЯРГЕЕВІЧА КАЗЛОВА** (1962, Краснапольскі р-н), пісьменніка

**29** **ДЗЕНЬ РАБОТНІКА ГАНДЛЮ** (апошняя нядзеля ліпеня)

**30** **90** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА АНТОНАВІЧА РАЛЬКО** (1922, Старадарожскі р-н – 2006), гаспадарчага і дзяржаўнага дзеяча, двойчы Героя Сацыялістычнай Працы (1958, 1976), у 1950-1992 гг. – старшыні калгаса "Аснежыцкі" Пінскага раёна

**31** **210** гадоў з дня нараджэння **ІГНАТА ІПАЛІТАВІЧА ДАМЕЙКІ** (1802, Карэліцкі р-н – 1889), вучонага-геолага, мінеролага, удзельніка вызваленчага руху на Беларусі ў 1830-1831 гг., даследчыка Чылі, нацыянальнага героя Чылі, ганаровага члена Польскай і іншых еўрапейскіх АН

## *ЖНІВЕНЬ*

**2** **ДЗЕНЬ ДЭСАНТНІКАЎ**

**2** **85** гадоў з часу выхаду ў свет першага нумара газеты **"СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ"** (Мінск; 1927)

**4** **95** гадоў з дня нараджэння **ЯНКІ** (ІВАНА АНТОНАВІЧА) **БРЫЛЯ** (1917, Адэса – 2006), народнага пісьменніка Беларусі, перакладчыка, публіцыста, ганаровага члена НАН Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1982)

**4** **65** гадоў з дня нараджэння **МІКАЛАЯ МІХАЙЛАВІЧА СЕЛЯШЧУКА** (1947, Маларыцкі р-н – 1996), графіка, жывапісца, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1992)

**5** **ДЗЕНЬ ЧЫГУНАЧНІКА** (першая нядзеля жніўня)

**5** **105** гадоў з дня нараджэння **ЭДУАРДА ЛЮДВІГАВІЧА САМУЙЛЁНКА** (1907 – 1939), пісьменніка, драматурга

**6** **495** гадоў з часу выхаду ў свет **"ПСАЛТЫРА"**, першай друкаванай кнігі, выдадзенай Ф. Скарынам у Празе (1517)

**7** **80** гадоў з дня нараджэння **АДАМА ВОСІПАВІЧА МАЛЬДЗІСА** (1932, Астравецкі р-н), літаратуразнаўца, крытыка, празаіка, публіцыста, дзяржаўнага дзеяча, заслужанага дзеяча польскай культуры, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1980)

**7** **65** гадоў з дня нараджэння **ЛЯВОНА ПЯТРОВІЧА НЕЎДАХА** (1947, Столінскі р-н), пісьменніка

**8** **100** гадоў з дня нараджэння **ЗМІТРА ВІТАЛІНА** (ДЗМІТРЫЯ РЫГОРАВІЧА СЕРГІЕВІЧА; 1912, Іванаўскі р-н – 2004), паэта, празаіка, журналіста

**8** **100** гадоў з дня нараджэння **АРКАДЗЯ ДЗМІТРЫЕВІЧА ЧАРНЫШЭВІЧА** (1912, Салігорскі р-н – 1967), пісьменніка

**9** **95** гадоў з дня заснавання штодзённай грамадска-палітычнай газеты "**ЗВЯЗДА**" (Мінск; 1917)

**12** **ДЗЕНЬ БУДАЎНІКА (**другая нядзеля жніўня)

**12** **200** гадоў з часу **ГАРАДЗЕЧАНСКАЙ БІТВЫ** ў ходзе Айчыннай вайны 1812 г. (Пружанскі р-н; 1812)

**12** **195** гадоў з дня нараджэння **ІГНАТА ЯЎСТАХАВІЧА ХРАПАВІЦКАГА** (1817, Верхнядзвінскі р-н – 1894), фалькларыста, паэта, грамадскага дзеяча

**19** **ДЗЕНЬ ВАЕННА-ПАВЕТРАНЫХ СІЛ** (трэцяя нядзеля жніўня)

**19** **100** гадоў з дня нараджэння **БАРЫСА МІХАЙЛАВІЧА МІКУЛІЧА** (1912, Бабруйск – 1954), пісьменніка, крытыка

**20** **105** гадоў з дня нараджэння **АНДРЭЯ МІТРАФАНАВІЧА КІЖАВАТАВА** (1907, Пензенская вобл. – 1941), абаронцы Брэсцкай крэпасці, Героя Савецкага Саюза (1965)

**22** **75** гадоў з дня нараджэння **ІЛЫ ЯКАЎЛЕВІЧА ЛЕВЯША** (1937), вучонага-філосафа, акадэміка Сусветнай акадэміі адукацыі і гуманістыкі (Іспанія), Расійскай акадэміі гуманітарных навук, Міжнароднай АН Еўразіі

**23** **ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ СТАТЫСТЫКІ**

**23** **95** гадоў з дня нараджэння **ПІМЕНА ЕМЯЛЬЯНАВІЧА ПАНЧАНКІ** (1917, Талін – 1995), народнага паэта Беларусі, ганаровага акадэміка НАН Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР (1981), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы (1968), Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959)

**24** **70** гадоў з дня нараджэння **МІКАЛАЯ МАКСІМАВІЧА РАГАНОЎСКАГА** (1942), вучонага-матэматыка, педагога, аўтара першага беларускага школьнага падручніка па матэматыцы, вучэбных дапаможнікаў для вышэйшай школы і навукова-метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў, выдатніка адукацыі Беларусі

**25** **80** гадоў з дня нараджэння **ПЕТРУСЯ** (ПЯТРА МІХАЙЛАВІЧА) **МАКАЛЯ** (1932, Беластоцкае ваяв. – 1996), паэта, драматурга, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы (1984), Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1980)

**27** **90** гадоў з дня нараджэння **АЛЕСЯ** (АЛЯКСАНДРА ІВАНАВІЧА) **МАХНАЧА** (1922, Уздзенскі р-н – 2001), драматурга, празаіка, публіцыста, заслужанага работніка культуры Беларусі

**31** **90** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА МІКАЛАЕВІЧА ШЫЦІКА** (1922, Шклоў – 2000), пісьменніка

## *ВЕРАСЕНЬ*

**130** гадоў з дня нараджэння **МІХАІЛА СІЛУЯНАВІЧА КАХАНОВІЧА** (1882, Баранавіцкі р-н – 1934), палітычнага дзеяча, педагога

**1** **ДЗЕНЬ ВЕДАЎ**

**2** **ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА** (першая нядзеля верасня)

**3** **85** гадоў з дня нараджэння **АЛЕСЯ** (АЛЯКСАНДРА МІХАЙЛАВІЧА) **АДАМОВІЧА** (1927, Капыльскі р-н – 1994), пісьменніка, крытыка, літаратуразнаўца, грамадскага дзеяча, члена-карэспандэнта НАН Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1976), прэміі Міністэрства абароны СССР (1974)

**4** **80** гадоў з дня нараджэння **СВЯТЛАНЫ ГЕОРГІЕЎНЫ ЯЎСЕЕВАЙ** (1932), паэтэсы, перакладчыцы, крытыка

**6** **220** гадоў з дня нараджэння **ІВАНА ІВАНАВІЧА ГРЫГАРОВІЧА** (1792, Слаўгарад – 1852), гісторыка, археографа і мовазнаўца, аўтара першага беларускага археаграфічнага зборніка “Беларускі архіў старажытных грамат”

**7** **180** гадоў з дня нараджэння **ЛЮДВІКА ТЭАДОРАВІЧА НАРБУТА** (1832, Воранаўскі р-н – 1863), аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863-1864 гг. на Беларусі і ў Літве

**8** **20** гадоў з часу адкрыцця **ПРАДСТАЎНІЦТВА ААН У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ** (Мінск; 1992)

**9** **ДЗЕНЬ ТАНКІСТАЎ** (другая нядзеля верасня)

**10** **50** гадоў з дня нараджэння **МАРАТА КАЗІМІРАВІЧА ГРЫГОРЧЫКА** (1962, Баранавіцкі р-н), артыста оперы, заслужанага артыста Беларусі

**11** **105** гадоў з дня нараджэння **СЯРГЕЯ ІВАНАВІЧА СІКОРСКАГА** (1907, Бабруйск – 1960), аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі, камандзіра Брэсцкага партызанскага злучэння ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза (1944)

**15** **ДЗЕНЬ БІБЛІЯТЭК РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** (з 2001 г.)

**15** **90** гадоў з часу заснавання **НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ БЕЛАРУСІ** (Мінск; 1922)

**15** **90** гадоў з часу заснавання **НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КНІЖНАЙ ПАЛАТЫ БЕЛАРУСІ,** навуковага цэнтра нацыянальнай бібліяграфіі і статыстыкі друку (Мінск; 1922)

**16** **60** гадоў з дня нараджэння **ІВАНА АЛЯКСЕЕВІЧА ЧАРОТЫ** (1952, Кобрынскі р-н), літаратуразнаўца, перакладчыка, крытыка, акадэміка Сербскай акадэміі навук і мастацтваў, Міжнароднай славянскай акадэміі навук, адукацыі, мастацтваў і культуры, лаўрэата прэміі “За духоўнае адраджэнне” (2003), Міжнароднай прэміі імя К. Астрожскага (Польшча, 1999), прэміі Саюза пісьменнікаў Сербіі (2000)

**17** **105** гадоў з дня нараджэння **СЯРГЕЯ СЦЯПАНАВІЧА ДЗЯРГАЯ** (1907, Мінск – 1980), паэта, перакладчыка, лаўрэата Літаратурнай прэміі

імя Я. Купалы (1964)

**17** **100** гадоў з дня нараджэння **МАКСІМА ТАНКА** (ЯЎГЕНА ІВАНАВІЧА СКУРКО; 1912, Мядзельскі р-н – 1995), народнага паэта Беларусі, грамадскага дзеяча, акадэміка НАН Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР (1948), Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы (1966), Ленінскай прэміі (1978), Літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева (1980)

**17** **90** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА АНДРЭЕВІЧА КАЛЕСНІКА** (1922, Карэліцкі р-н – 1994), крытыка, літаратуразнаўца, празаіка, заслужанага работніка вышэйшай школы Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1980) і Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1994)

**20** **ДЗЕНЬ МЫТНІКА**

**20** **75** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСЕЯ КАНСТАНЦІНАВІЧА КАЎКІ** (1937, Чэрвеньскі р-н), вучонага-гісторыка, літаратуразнаўца, грамадскага дзеяча

**21** **80** гадоў з дня нараджэння **ДАІРА ФЁДАРАВІЧА СЛАЎКОВІЧА** (1932, Мінск), пісьменніка, выдатніка культуры СССР

**22** **40** гадоў з часу заснавання **КОЛАСАЎСКАГА ЗАКАЗНІКА** (Стаўбцоўскі р-н; 1972)

**23** **75** гадоў з дня нараджэння **АЛЕНЫ ГЕОРГІЕЎНЫ ЭЛЬЯШЭВІЧ** (1937, Пінск), вучонага ў галіне фармацэўтычных навук, выдатніка аховы здароўя Беларусі

**26** **155** гадоў з дня нараджэння **ПЛАТОНА МІКАЛАЕВІЧА ЖУКОВІЧА** (1857, Пружаны – 1919), вучонага-гісторыка, педагога, члена-карэспандэнта Расійскай АН

**27** **60** гадоў з дня нараджэння **АЛЕСЯ** (АЛЯКСАНДРА КАНСТАНЦІНАВІЧА) **КАЖАДУБА** (1952, Ганцавічы), пісьменніка

**28** **60** гадоў з дня нараджэння **ЯЎГЕНА ВІКТАРАВІЧА КЛІМАКОВА** (1952), дзеяча тэатра лялек, дырэктара Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

**30** **ДЗЕНЬ МАШЫНАБУДАЎНІКА** (апошняя нядзеля верасня)

**30** **120** гадоў з дня нараджэння **ЗОСЬКІ ВЕРАС** (ЛЮДВІКІ АНТОНАЎНЫ СІВІЦКАЙ; 1892 – 1991), пісьменніцы, публіцыста, мемуарыста, выдаўца, грамадска-культурнага дзеяча

## *КАСТРЫЧНІК*

**80** гадоў з часу заснавання **БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ АКАДЭМІІ МУЗЫКІ**, вядучай вышэйшай навучальнай установы нацыянальнай сістэмы адукацыі ў галіне музычнага мастацтва (Мінск; кастрычнік-снежань 1932)

**1** **ДЗЕНЬ ПАЖЫЛЫХ ЛЮДЗЕЙ**

**1** **195** гадоў з пачатку дзейнасці тайных студэнцкіх таварыстваў **ФІЛАМАТАЎ І ФІЛАРЭТАЎ** (Віленскі ўніверсітэт; 1817-1823)

3 **80** гадоў з дня нараджэння **ВАСІЛЯ МІКАЛАЕВІЧА САБАЛЕЎСКАГА** (1932, Камянецкі р-н – 2000), мастака

3 **80** гадоў з дня нараджэння **МІХАІЛА ІВАНАВІЧА НАЗДРЫНА-ПЛАТНІЦКАГА** (1932, Столінскі р-н), вучонага-эканаміста, заслужанага работніка культуры Беларусі, кавалера ордэна Дружбы народаў

3 **75** гадоў з дня нараджэння **ЯЎГЕНА РЫГОРАВІЧА РАДКЕВІЧА** (1937, Сянно – 1999), пісьменніка, даследчыка гісторыі і развіцця беларускага радыё і тэлебачання

6 **ДЗЕНЬ АРХІВІСТА**

7 **ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА** (першая нядзеля кастрычніка)

7 **80** гадоў з дня нараджэння **ІВАНА МІКАЛАЕВІЧА ПТАШНІКАВА** (1932, Лагойскі р-н), пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1978), кавалера ордэна “Знак Пашаны”

8 **110** гадоў з дня нараджэння **КАНСТАНЦІНА ІВАНАВІЧА КЕРНАЖЫЦКАГА** (1902, Краснапольскі р-н – 1942), вучонага-гісторыка, працы якога лічацца важнай вяхой у беларускай гістарыяграфіі XX ст.

8 **50** гадоў з дня нараджэння **ЛЮБОВІ СЯМЁНАЎНЫ ДЗІКАВІЦКАЙ** (1962, Пінскі р-н), паэткі

9 **90** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА ІВАНАВІЧА СТАЛЬМАШУКА** (1922, Брэсцкі р-н – 1966), пісьменніка

10 **175** гадоў з дня нараджэння **ВІКЕНЦІЯ ВАСІЛЬЕВІЧА МАКУШАВА** (1837, Брэст – 1883), гісторыка і філолага-славіста

10 **55** гадоў з дня нараджэння **ЛЕАНІДА ВАСІЛЬЕВІЧА ДРАНЬКО-МАЙСЮКА** (1957, Давыд-Гарадок), пісьменніка

12 **65** гадоў з дня нараджэння **АЛЕНЫ ГЕОРГІЕЎНЫ ПАПОВАЙ** (1947), пісьменніцы, драматурга, лаўрэата тэатральнай прэміі імя К. Крапівы (1999)

13 **80** гадоў з дня нараджэння **АЛЕНЫ РЫГОРАЎНЫ КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВАЙ** (1932, Мінск), пісьменніцы

14 **ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ КУЛЬТУРЫ** (другая нядзеля кастрычніка)

14 **ДЗЕНЬ МАЦІ**

15 **ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ ФАРМАЦЭЎТЫЧНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ**

15 **115** гадоў з дня нараджэння **МІКАЛАЯ МІКАЛАЕВІЧА ПІГУЛЕЎСКАГА** (1897, Ляхавіцкі р-н – 1967), спевака, музычнага дзеяча, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

15 **105** гадоў з дня нараджэння **РАМАНА КАРПАВІЧА САБАЛЕНКІ** (1907, Брагінскі р-н – 1975), пісьменніка, публіцыста

16 **100** гадоў з дня нараджэння **АНДРЭЯ ФЁДАРАВІЧА УШАКОВА** (1912, Чавускі р-н – 1941), пісьменніка, паэта

16 **70** гадоў з дня нараджэння **ІНЫ ПАЎЛАЎНЫ ГЕРАСІМАВАЙ** (1942), вучонага-гісторыка, мастацтвазнаўца, дырэктара Музея гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі (Мінск)

16 **65** гадоў з дня нараджэння **МІХАІЛА КАРНІЛАВІЧА КАНЬКОВА**

(1947, Удмуртыя), жывапісца, мастака-афарміцеля

17 **75** гадоў з дня нараджэння **МІКАЛАЯ ІВАНАВІЧА ЧАРГІНЦА** (1937, Мінск), пісьменніка, журналіста, публіцыста, дзяржаўнага дзеяча Беларусі, генерала-лейтэнанта ўнутранай службы, акадэміка Міжнароднай акадэміі арганізацыйных і кіраўніцкіх навук, Міжнароднай акадэміі інфармацыйных рэсурсаў і тэхналогій, Акадэміі праблем бяспекі, абароны і правапарадку Расіі, заслужанага работніка Міністэрства ўнутраных спраў СССР, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева (1990) і многіх іншых рэспубліканскіх і міжнародных прэмій, кавалера ордэнаў Беларусі, Расіі і СНД

18 **65** гадоў з дня нараджэння **АЛЕГА АНАТОЛЬЕВІЧА СТРАЛЬЧОНКА** (1947, Кобрын), вучонага ў галіне біяарганічнай хіміі і біяхіміі гармонаў, акадэміка НАН Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1988)

20 **65** гадоў з дня нараджэння **ЮРКІ** (ЮРЫЯ УЛАДЗІМІРАВІЧА) **ГОЛУБА** (1947, Зэльвенскі р-н), паэта

25 **80** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА ІГНАТАВІЧА АНІСКОВІЧА** (1932, Лагойскі р-н), перакладчыка, крытыка, публіцыста, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1996)

28 **ДЗЕНЬ АЎТАМАБІЛІСТА І ДАРОЖНІКА** (чацвёртая нядзеля кастрычніка)

28 **90** гадоў з дня нараджэння **МІХАСЯ** (МІХАІЛА ПЯТРОВІЧА) **ДАНІЛЕНКІ** (1922, Лоеўскі р-н), пісьменніка, публіцыста

28 **60** гадоў з дня нараджэння **ВІКТАРА ЛЕАНІДАВІЧА ДОЎНАРА** (1952, Мінск), жывапісца, аўтара фрэсак і іканастасаў для цэркваў Беларусі, Польшчы, Германіі і іншых краін, рэжысёра-мультыплікатара

30 **80** гадоў з дня нараджэння **АНДРЭЯ МІХАЙЛАВІЧА САМСОНА** (1932, Давыд-Гарадок – 1997), вучонага-фізіка, пачынальніка тэарэтычных даследаванняў дынамікі лазернай генерацыі святла ў Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1976)

31 **100** гадоў з дня нараджэння **ЮЛЬЯНА СЯРГЕЕВІЧА ПШЫРКОВА** (1912, Рагачоўскі р-н – 1980), літаратуразнаўца, крытыка, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1980)

31 **75** гадоў з дня нараджэння **ІНЫ ДЗМІТРЫЕЎНЫ НАЗІНАЙ** (1937, Мінск), вучонага-этнамузыколага, педагога, уладальніка Гран-пры ЮНЕСКА (1988)

## *ЛІСТАПАД*

**200** гадоў з пачатку **БЯРЭЗІНСКАЙ АПЕРАЦЫІ 1812 г.**, наступальнай аперацыі расійскіх войск на завяршальным этапе Айчыннай вайны 1812 г.

**80** гадоў з часу стварэння **НАЦЫЯНАЛЬНАГА АКАДЭМІЧНАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА ІМЯ М. ГОРКАГА** (Мінск; 1932)

1 **75** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА МІХАЙЛАВІЧА ВЕРАМЕЙЧЫКА** (1937, Брагінскі р-н – 1999), паэта, публіцыста

2 **ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ**

3 **130** гадоў з дня нараджэння **ЯКУБА КОЛАСА** (КАНСТАНЦІНА МІХАЙЛАВІЧА МІЦКЕВІЧА; 1882, в. Акінчыцы – 1956), народнага паэта Беларусі, грамадскага дзеяча, вучонага, педагога, акадэміка НАН Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1949)

3 **100** гадоў з дня нараджэння **ВЯЧАСЛАВА ПЯТРОВІЧА ПАЛЕСКАГА** (СТАНКЕВІЧА; 1912, Брагінскі р-н – 1971), драматурга, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

3 **70** гадоў з дня нараджэння **ПЯТРА ПЯТРОВІЧА ПРАКАПОВІЧА** (1942, Пружанскі р-н), дзяржаўнага дзеяча Беларусі, заслужанага будаўніка Беларусі, Героя Беларусі (2006), кавалера ордэнаў Працоўнага Чырвонага Сцяга, "Знак Пашаны" і ордэна Айчыны III ступені

4 **125** гадоў з дня нараджэння **ЦІШКІ ГАРТНАГА** (ЗМІЦЕРА ХВЕДАРАВІЧА ЖЫЛУНОВІЧА; 1887, Капыль – 1937), пісьменніка, дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, гісторыка, публіцыста, акадэміка НАН Беларусі

4 **ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ ГРАМАДЗЯНСКАЙ АВІЯЦЫІ** (першая нядзеля лістапада)

6 **25** гадоў з часу заснавання **ДЗЯРЖАЎНАГА МУЗЕЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ,** аднаго з буйнейшых літаратурных музеяў нашай краіны і адзінага літаратурнага музея, які займаецца дакументаваннем літаратурнага працэсу на Беларусі (Мінск; 1987, адкрыты для наведвальнікаў у 1991)

7 **ДЗЕНЬ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ**

9 **110** гадоў з дня нараджэння **НЕСЦЕРА ФЁДАРАВІЧА САКАЛОЎСКАГА** (1902, Докшыцкі р-н – 1950), кампазітара, хормайстра, фалькларыста, аднаго з арганізатараў Ансамбля беларускай народнай песні і танца Беларускай дзяржаўнай філармоніі, аўтара музыкі Дзяржаўнага гімна БССР (на вершы М. Клімковіча)

14 **200** гадоў з дня нараджэння **ПАЎЛЮКА** (ПАЎЛА ВОСІПАВІЧА) **БАГРЫМА** (1812, Баранавіцкі р-н – 1891(?)), паэта і таленавітага каваля, імя якога нададзена Крошынскаму музею народнага мастацтва і рамёстваў (Баранавіцкі р-н)

14 **105** гадоў з дня нараджэння **МІХАСЯ** (МІХАІЛА РЫГОРАВІЧА) **ЛАРЧАНКІ** (1907, Слаўгарадскі р-н – 1981), крытыка і літаратуразнаўца, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

16 **75** гадоў з дня нараджэння **ВАЛЯНЦІНА АНТОНАВІЧА ЛУКШЫ** (1937, Полацк), пісьменніка, перакладчыка, публіцыста, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя П. Броўкі (1994), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1996)

16 **50** гадоў з часу заснавання **БЕЛАРУСКАГА САЮЗА КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ**, рэспубліканскага грамадскага аб'яднання (1962)

18 **ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ І ПЕРАПРАЦОЎЧАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ АГРАПРАМЫСЛОВАГА КОМПЛЕКСУ** (трэцяя нядзеля

лістапада)

18 **110** гадоў з дня нараджэння **МІХАСЯ** (МІХАІЛА АНТОНАВІЧА) **МАШАРЫ** (1902, Шаркаўшчынскі р-н – 1976), пісьменніка, перакладчыка, удзельніка нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, кавалера ордэнаў Чырвонай Зоркі і "Знак Пашаны"

18 **100** гадоў з дня нараджэння **ПАЎЛА НІЧЫПАРАВІЧА КАВАЛЁВА** (1912, Клімавіцкі р-н – 1995), пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі

19 **ДЗЕНЬ РАКЕТНЫХ ВОЙСКАЎ І АРТЫЛЕРЫІ**

20 **295** гадоў з дня нараджэння **ГЕОРГІЯ** (РЫГОРА) **КАНІСКАГА** (1717 – 1795), украінскага і беларускага пісьменніка, палітычнага, царкоўнага і культурнага дзеяча Беларусі

20 **50** гадоў з дня нараджэння **МІХАІЛА РЫГОРАВІЧА БАРАЗНЫ** (1962, Круглянскі р-н), мастацтвазнаўца, мастака, творчыя работы якога захоўваюцца ў музейных, грамадскіх і прыватных зборах Беларусі і Еўропы, ганаровага члена Расійскай акадэміі мастацтваў, лаўрэата спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2001), рэктара Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў

25 **90** гадоў з дня нараджэння **ЕФРАСІННІ ЛЕАНІДАЎНЫ БОНДАРАВАЙ** (1922, Лёзненскі р-н – 2011), кіназнаўца, кінакрытыка, сцэнарыста, заснавальніцы нацыянальнай кіназнаўчай школы, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, лаўрэата спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2002) і прэміі Саюза журналістаў Беларусі (1997)

27 **145** гадоў з дня нараджэння **ІВАНА УЛАДЗІСЛАВАВІЧА ЖАЛТОЎСКАГА** (1867, Пінск – 1959), беларускага і расійскага архітэктара, тэарэтыка, педагога, ганаровага члена НАН Беларусі, акадэміка Акадэміі будаўніцтва і архітэктуры СССР, заслужанага дзеяча навукі і мастацтваў Расіі, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР (1950)

30 **120** гадоў з дня нараджэння **ПЛАТОНА ВАСІЛЬЕВІЧА САЕВІЧА** (1892, Маларыцкі р-н – 1956), дзяржаўнага дзеяча Беларусі

## *СНЕЖАНЬ*

**95** гадоў з дня нараджэння **МІКОЛЫ** (МІКАЛАЯ МІКАЛАЕВІЧА) **СУРНАЧОВА** (1917, Рагачоўскі р-н – 1945), паэта

**90** гадоў з пачатку выхаду ў свет штомесячнага літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса **"ПОЛЫМЯ"** (Мінск; 1922)

2 **ДЗЕНЬ ЮРЫСТА** (першая нядзеля снежня)

2 **400** гадоў з дня нараджэння **ЯНУША РАДЗІВІЛА** (1612 – 1655), дзяржаўнага і ваеннага дзеяча ВКЛ

2 **110** гадоў з дня нараджэння **АНАТОЛЯ ВОЛЬНАГА** (АНАТОЛЯ

ІЎСЦІНАВІЧА АЖГІРЭЯ; 1902, Пухавіцкі р-н – 1937), пісьменніка, сцэнарыста, кінадраматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

2 (15) **95** гадоў з часу заключэння **ПАГАДНЕННЯ АБ ЧАСОВЫМ СПЫНЕННІ ВАЕННЫХ ДЗЕЯННЯЎ** паміж Савецкай Расіяй і дзяржавамі германскага боку (Брэст-Літоўск; 1917)

3 **ДЗЕНЬ СТРАХАВЫХ РАБОТНІКАЎ**

4 **100** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСЕЯ СЦЯПАНАВІЧА РУСЕЦКАГА** (БУРДЗЯЛЁВА; 1912, Касцюковіцкі р-н – 2000), паэта, перакладчыка, заслужанага работніка культуры Беларусі, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1981)

5 **65** гадоў з дня нараджэння **АЛЕСЯ** (АЛЯКСАНДРА СЦЯПАНАВІЧА) **РАЗАНАВА** (1947, Бярозаўскі р-н), паэта, перакладчыка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы (1990)

9 (22) **95** гадоў з пачатку **ПЕРАГАВОРАЎ АБ МІРЫ** паміж урадамі РСФСР і Германіі (Брэсцкая крэпасць, Белы палац; 1917)

10 **160** гадоў з дня нараджэння **ВАНДАЛІНА АЛЯКСАНДРАВІЧА ШУКЕВІЧА** (1852, Воранаўскі р-н – 1919), археолага, антраполага, краязнаўца і этнографа, аднаго з заснавальнікаў навуковай археалогіі заходніх зямель Беларусі, члена-карэспандэнта Кракаўскай АН

15 **60** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІСЛАВА ЯКАЎЛЕВІЧА РУБАНАВА** (1952, Слаўгарадскі р-н – 1994), пісьменніка, лаўрэата Літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў Беларусі імя І. Мележа (1990)

17 **ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА КІНО**

20 **ДЗЕНЬ СУПРАЦОЎНІКА ОРГАНАЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ**

20 **50** гадоў з дня нараджэння **АНДРЭЯ УЛАДЗІМІРАВІЧА СКАРЫНКІНА** (1962, Мінск), паэта, члена-карэспандэнта Міжнароднай Кірыла-Мяфодзіеўскай акадэміі славянскай асветы, першага стыпендыята фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі (1996), лаўрэата прэміі “Залаты Купідон” (2007)

22 **ДЗЕНЬ ЭНЕРГЕТЫКА**

22 **90** гадоў з дня нараджэння **АЛЕНЫ СЯМЁНАЎНЫ ВАСІЛЕВІЧ** (1922, Слуцкі р-н), пісьменніцы, заслужанага работніка культуры Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1976), кавалера ордэна “Знак Пашаны”

23 **95** гадоў з дня нараджэння **РЫГОРА АРКАДЗЬЕВІЧА ТАКУЕВА** (1917 – 1995), удзельніка партызанскага руху ў Палескай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза (1944)

25 **РАЖСТВО ХРЫСТОВАЕ** (каталіцкае Ражство)

26 **75** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА ВАСІЛЬЕВІЧА ГНІЛАМЁДАВА** (1937, Камянецкі р-н), пісьменніка, крытыка, літаратуразнаўца, акадэміка НАН Беларусі, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя У. Калесніка (1996), прэміі НАН Беларусі (2005), кавалера ордэна Францыска Скарыны (2009)

27 **150** гадоў з пачатку дзеяння **БЕЛАРУСКАЙ ЧЫГУНКІ**, сеткі чыгуначных ліній і сродкаў іх эксплуатацыі на тэрыторыі Беларусі (1862)

